№ 3. Выданне „Нашае Нивы“ № 3.
и суполки „Минчук“.

*„Свайго не цурайцесь
— и чужому навучацйесь!“*

# ГЭДАЛИ

АПАВЕДАННЕ
ЭЛИЗЫ ОЖЭШКОВАЙ.




Цэна 6 кап.

Глаўны склад у Канторы „НАШАЕ НИВЫ“ у Вильни, Завальная вул. (рог Троцкай) № 30. 1907.

Выдананне „Нашае Нивы“

# ГЭДАЛИ

Апаведанне

Элизы Ожэшковай





Глауны склад у канторы Нашае Нивы у Вильни

# ПРАДМОВА.

Век ляціць за векам, адно пакаленне люду на зьмену идзець другому, а вечна чутны на зямли жаль горапаснаго, вечна тут пануець сила. Заўсягды нойдзець сабе гнибицель прычэпку для свае зьвярынае работы ды уселяк яго праўда выходзиць. За паншчынай мужык за малым сам не уверыўся, што выходзиць ён ад Хама, катораму сам Бог прыказаў валачыць ценжар няволи, што косьць яго чорная ды кроў ня людская. Бо ад самаго маленства аж да магилы гэтые байки служыли прыдаткам да хлеба штодзеннаго.

Дарэмные были мовы лепшых людзей кинуць гэты зьдзек чалавека над чалавекам. Панура цягаў няволю бедак ды ад рана да ночы ня меў часу памысьлиць аб свабодзи, ён глухи быў да гэтаго гуку. Сыты гнибицель изноў з усьмехам прыслухиваўся да намовы исьци устанаўляць на зямли брацтва и шчасьце людзей. Так сталы слухае, як дзицё лапочэць ды ничога у галаву не бярэць. А якога способу ужываець вялики чалавек для таго, каб люцкие грамады паверыли у вечнасьць праўды и дабра, и добра ведали тое, што кожны чалавек, ледзь радзиўся на сьвет, мае права на ўсе рацосьци зямли?

Майстэрнай рукой трэба намалеваць хараство сьвету, паказаць, як поўны ён прастору, як рады ён прыняць да сябе усякаго, хто гатоў весялицца паўсюдным хараством. Трэба таленту развярнуць у сваих творах усю глыбь душы чалавека, усю яе пекноту, спадзеваючыся, што гадкие руки крыў-

дзицеля адпадуць самы ад гэтай сьвятыни. Што садрыгнуцца яны, видзючы увесь гэты пераступ зьдзеку над чалавекам, будзь ён нявольник, татарын або жыд. Видаць тады будзе, што трэба гэтаго грэху чым барждж‍эй пазбыцца, каб не паганиць сьвету. Писацели са сваими книгами, майстры з малевидлами, песьняры з творами — усе адзин цэль сабе паставили—аблажыць муры зьверства ды стогну, а на грузах тых збудаваць палац, гдзе усяки знойдзе сабе прытулак. Хто гараваў увесь свой век, сьвету яснаго не бачыўшы; хто ноги збиў ад доўгай, далёкай падарожы—усе там атпачынуць ды забудуцца свайго гора и нядоли. Часта думки их так и гинуць, небарак, як тые зорки на марозным склони неба. Усёж здольные яны запалиць агнём маладые вочы, будзиць у иа сьмелые надзеи, лепшые пачуця....

Гэтую дарогу для свайго таленту ababралх и старая землячка нашая Элиза Ожэжкова, што написала гэтае апаведанне. У тварох сваих ваюець яна з тым або другим блудам и крыўдай, малюець прад вачыма чытацелёў тую „салодкасць ды сьвет на зямли, на каторай калисьци ня будзець ужо ани гора, ани сварбы, ани таких, што плачуць и у сэрцы сваим гаманяць, што им надта дрэнна....“





Вечэр летни на шырокую раўнину пачынаў апушчаць ужо змрок пераглядзисты, ў каторым усё было яшчэ видным, хаця и прыцемненым. Жытнишчэ у тым паўстаючым змроку не пераменила сваяе жоўтай хварбы и няроўнаго паверху, дароги аддзелялися ад поля пясковай ўстужкай, мутна бялилася цьвятушчая грэчка, пукатыми здавалися палявые грушы, а тополи стырчали над паблытаными линиями будынкоў малога хвольварку, бытцам высокие стаўпы. Па адным баку неба ешчэ блукалася агнистая чырвонасьць заходу, на другим сьпёртые хмары пастали таким мурам, што можна было угледзиць у гэтым вобраз наступаючай ночы.

Цаплё и циха. У жытниску адзывалися тольки некали перапёлки, над белай грэчкай зачарнеў часам нетапыр и, праляцеўшы поўкругам, гинуў гдзесьци, ды иржанне канёў чутно было з недалёкае пашы. Зьверына, птушки, рабаки—усе спали; людзей так сама ани видаць, ани чуваць; аб жыццю их тольки гаварыли некольки вогникоў, мигаячых сярод будынкоў хвольварку.

У гэтым змроку и маўчанни шыроких сонных палёў адзин тольки чалавек ишоў дарогаю, абапол каторай старые вербы звешвали свае гузаватае, смешна павыкручванае галлё. Але не кераваўся ён да хвальварку—

паминуў яго, и з пад густых вярбовых гальлёў выйшоў ў чыстае поле. Тутака пасьледки сьвету сонца, ня згинуўшые ешчэ на заходзи, абняли яго хвигуру, высокую и тонкую, згибленую под ацягаючым плечы пакункам. Адзене меў доўгае, да пят дастаючае, кумячану с падзёртым верхом шапку и цяжкие белые ад пылу дарожнаго боты. У руцэ трымаў ён кий, каторым и падпираўся. Нядзель скольки ужо як стаяла тутака суш, парабиўшая пясковые дароги сыпучыми, дзе каменнёў так сама не бракавала. Ноги идучаго раз-па-рази билися аб тые каменння, або уходзили у пясок, падымаючы пры гэтым туманы дзяручаго горла пылу; а дзеля таго, што падарожны быў прыгнуты да зямли, каб лягчэй нясьци пакунак—мус..ў хватаць з одыхам гэтый пыл у губы и горла; а дыханне яго цяжкае и сьпешнае было чутно у вячэрняй цишы.

Слабая, цямнеючая яснаватасьць заходу яшчэ раз заглянула яму у твар. — А была яна доўгая, абросшая цёмными валасами, и такая белая як аплатак, прыпраўлены воскам; твар касьцистая, губы меў разкрытые, а вочы глядзели у зямлю.

Затрымаўся каб адпачыць, но выпраставацца ня мог, бо ня скинуў с плеч пакунку. И стаяў так згорблены, падпёршыся киям и тольки галаву падняўшы узираўся ў гору на густы змрок, праз каторы мигацела мглистая дарога зорак. У тым дыхнула на яго свежасць ад вяликай расы, змешаная з здаровым запахом зелени. У гушчыне зашумеў нейки цихи шорох, бытцам праляцеў заяц, або затрэпеталася збуджэная ў низким гнездзи сваим—сонная птушка. Глянуў на поле; расистая свежасьць неслася з загоноў,

пакрытых густым зялёным гарохам, ў катором сонна капашылася шмат розных стварэнькоў. То там, то тут на пушыстай паверхносьци бялеў спозьнены цьвет; доўгие зблытаные каливы адно другога цiснучы ад цяжкасьци вяликих даспеўшых струкоў клалися на землю.

А на берази пешчанай дароги згорблены ад цяжкасьци грубога пакунку чалавек пахилиўся яшчэ нижэй; паждаўшы, кий выпаў у яго з рук, а абедзьве далони, нибы пихнутые якой няведамой для яго силай, працягнулися да зялёных загоноў. Але ж ён адняў их, и здавалося, што пойдзе далей сабе; але ноги яго якбы ўрасли ў землю.

— Ай! ай! ай! ох!

Уздохи то были жадання. Пакиваў галавой у абедзьве стораны, цмокнуў языком аб паднябенне, пакунак з плеч на дарогу скинуў и падаючы на каленцы затапиў далони у гушчыни гароху. Цяпер чутно было адрыванне струкоў и галоснае храмшчэнне их у галодных зубох. И поўз на каленях што раз далей. Шчоки яго так и хадзили, а руки тольки и мигали ад расьлиннасьци да губоў, ды ад губоў да расьлиннасьци. Струки гароху были аблитые расою и трудна сказаць былоб, ци з таким лакомствам еўшы чалавек заспакаяў патрэбу едзэння ци пицця. То праўда тольки, што и пиў и еў разам, больш нават пиў як еў. Твар меў спечаны дзеннай гарачынёй, а губы поўные пяску; бедны, схилиўся так низка, што аж прыпаў тварам да мокраго гарахавення и, перастаючы есьць, якбы адпачываў у цихай роскошы.

Раптам неўдалечыне шагоў з дваццаць

падняўся з зямли якись чалавек и праз минуту угледаўся у цямнату поля, па гэтым скочыў на межу и з паднятым киям, зрабиўшы некольки спрытных, цихих скокаў, схапиў кленчачаго чалавека за каўнер. А голас малады и здаровы крыкнуў:

— А што ты тут робиш, зладзею, валачаю? Гарох наш яси ды топчэш, ды пэўна кишэни сабе им напихаеш! Папаўся, сабачая душа! Уставай! ну! и хадзи хутчэй! Бо як пацягну цябе киям, то, паглядзиш, як конь пабяжыш за мной!

Ня ведама, ци мог бы ён ляцець нават пад страхам кия, але што з зямли зарваўся хутка, ўвесь з галавы да пят дрыжучы з пярэпалоху. Так негаданна и ў таким часи яго злавили! Сагнуўся низка разоў кольки, кланяючыся хутка, и ахрыпшым голасам без ладу прагаварыў:

— Ой! ой! нехай мяне вяльможны панич пусьциить! Я да шыпкара у Шумнай перэначаваць иду! Ай! ай! гэты гарох... таки сабе пры дарози... таки харошы гарох... Я тольки каливачкаў кольки. Няхай мне вяльможны паничык падаруе и пусьциць... ци гэта такая шкода, ци што?

Не слухаючы нават яго, хлопец крычаў:

— А! ци гэта вялихая шкода? А ты што думаў, мо не? Ци прыбытак нам з гэтаго, што такие злодзеи, як ты, ўсенки гарох з берагу абъедаюць. Трэба было яшчэ бульбы нашай накапаць... Мебы чым „б а л а б о с т у“ у шабас пачаставаць. Праз вас чалавек як сабака мусиць на полю начаваць, каб сваёй крывавай працы пильнаваць, тутака яшчэ бацька крычыць, што ни воднаго

злодзея не злапаў. Але злапаў таки! злапаў! Хадзи да бацьки! на суд! Будзе табе! папомниш!...



А што ты тут робиш, зладзею, валачаю?!

Руками размахваў широка и крычаў так моцна, што аж па поли расходзилася да-

лёка. Але ахрыплы, цихи голас пачаў изноў тое самае:

— Ой! ой! нехай мяне вельможны панич пусьциць... Я да шынкара ў Шумнай на начлег... Ой, суд!... Гэты гарох так пры самай дарози расьцець, а чаму ён пры дарози? Я бацьку вельможного панича знаю... Каб ён шчасьливы быў, як я яму жычу!... Каб ён други таки хвальварак купиў!... каб яму ў поли золато само радзилася!... Каб ён, ну!... сто таких, як панич, пекных сыноў выгадаваў!...

У змроку не было видаць яго твары, але, што некольки слоў, гнуўся ў низким паклони, а прысадзисты той хлопец, ци кали ўжо гнеў прайшоў, ици так з натуры не гнеўливы, бухнуў сьмехэм:

— А тож благаславиць! — Сто сыноў! Добра я на гэтым скарыстаўбы, кали меўбы дзевяноста дзевяць братоў! Ну, душа нехрысьцянская, ничога ня зробиш, ничога не выцыганиш ты у мяне сваими благаслаўленнями! Марш перада мной, а я дык за табою, як салдат за арыштантам. Да бацьки, на суд!

Эйн, цвэй, дрэй!—марш!

Робячы, як маскаль на вучэнни, ўзяў кий на аплечак и пачаў надыходзиць на жыда, каторы з высилкам и стагнаценнем падымаў пакунак на плечы. Асьмелены васоласьцяй хлопца, што яго злавиў, загаварыў зноў з цихим сьмехам:

— Ну, пайду, пайду! А чамуж я ня маю пайсьци? Цiж то я паничоўскаго бацьки не знаю? Циж я ня ведаю, што ён беднаму Гдалю ничога злога ня зробиць? Я пана Игнаца Карэйбаго знаў яшчэ тагды, як ён ў Карэйбах... ў сваёй ваколицы жыў... а

цяпер то ўжо пяць гадоў, як гэты сабе хвальварак купиў... Дай Бог, каб яму на здароўе было! Я яго не баюся! ён миласерны чалавек!

Але па дрыжанни голасу, а нават и па цихим сьмеху, видаць было, што баяўся.

И пачаў исьци з згорблеными плечыма, з нахиляным тварам. Аддыханне яго стала галаснейша, голас болей захрып, некольки раз кашлянуў и плюнуў. Карацель яго ишоў зараз за им. Няўбаўки падышли да дароги абсаджэнай вербами.

— На права, марш! Громка закамандаваў сын гаспадара хвальварку.

Пойманы засьмеяўся ахрыпла:

— Хи, хи, хи, хи! яки панич весёлы. Дай Бог здароўечка паничу!

— Павиншуеш, кали татка за гарох халат з скуры зьдзярэ!

— Хи, хи, хи, хи!

Зноў закашляўся и на момэнт прыстаў.

— Ну, идзиж хутчэй, бо ў карк пальну!

И счымлены кулак занёс над згиблеными плячми жыда, але ня ўдэрыў, тольки праз час якисьци гразиў пачастункам.

Пад цёмными вербами раздалося працяжное стагнаценне:

— Ох, ох, ох!

* * *

У хвальварку Игнацаго Карэйбы хата жылая не вяликая, пакрытая саломай, была раздзелена сенями на дзьве палавины, у адной мясьцилася служба разам з птаствам хатним, у другой жыў сам гаспадар хвальварку з сваёй раднёй.

Работы днеўные скончаны тольки што.

У „чалядни“ на вяликим агню варыли вячэру для парабкоў, пастухоў и дзевак. Гудзели грубые голасы мужчынские, сьмеялися голасно кабеты, раздавалося вясёлае дзяўканне сабаки ды урэшци галасьливае кудахтанне курэй, сяджучых у цёмным падпечку, каторых збудзиў сьвет агню ды галасаванне людзкае. Па другим боку сяней прасторную хату, маючую падлогу з дашчок, так сама асьвечываў агонь, ды гарэў ён не ў вяликай печы як у „чэлядни“, але у глыбоким, разложыстым комини. Пры агню тым варылося нешта ў вяликим гаршку. Чырвоны блыск агню блукаўся па паразвешаных на сьценах абразкох, падаў на чырвоные лавы, сталы и зэдли (слончыки) на завуливаючые кут хаты кросны. Праз адчыняные дзьверы сьвет вячэрняго агню заглядаў и да другога пакою, гдзе хоць и не выразиста паказываў рысы добра пасланых ложак, жалезам акованые скрыни, мяхи з воўнай ци з мукой, клубки, мотки и так сама сьвятые абразки. Пакой гэты други, служыў спальняй и каморай (скарбцам) першы сталовай, а па часьци и кухняй.

Игнацы Карэйба минут пятнаццаць як прышоў з поля, дзе разам з парабками накладаў возы ячменем и, дзеля ґорачыни зняўшы марынарку, сядзеў за сталом цяпер тольки у палатнянай камизэльцы. Перад им лежаў бохан хлеба разоваго, стаяли талерки ды раскладзены алавяныя лыжки.

Пан Карэйба быў то чалавек низкаго росту, прысадзисты, плечысты, с тварам круглым, як месяц у поўни, ды з сиваватай галавой астрыжаной „ёжыкам“. Скура на твары ды шыи, абгарэўшая да вишнёвай хварбу, зморшчаны лоб, загрубелые руки з

вузлаватыми пальцами паказывали, што хаця малы, але багата ураджайны гэты хвальварак не дастаўся яму дарма, але вырабиў ён сам яго морам крыви ды поту ды праз многа перанесяных неўзгод. Паминуўшы усё гэта, з цэлай хвигуры гэтаго „засьценковаго шляхцица“ праглядывала вяликая сила,



Пан Карэйба.

жалезнае здароўе, а на шчыра сьмяючайся твары кожны мог вычытаць здаваленасьць и з сябе, и з таго, што зрабиў.

Саўсим иначэй выглядваў сядзючы так сама пры стале высоки и худы аканом з Шумнай, чалавек (лет сярэдних) не стары, на доўгих нагах, з доўгаю тварай, хитрыми вачами и вострым кустом чорных вусоў над хитрасными вустами. Меў ён на сабе чорны сурдут и чырвоную краватку пад шыяй.

Усе ведали, што быў ён вельми пусты чалавек, а да таго и спрытны даволи ды за ўсяго и з усих жартаваў. Сягоння, варочаючысь з суседняй вёски, дзе згоджваў работникоў, прывязаў сытаго коника да плоту и зайшоў да Карэйбоў на гутарку суседзкую ды на сьвежую бульбачку, катора варылася на агни. Размаўляючы аб жнивах з гаспадаром ён усё хитрыми вачами зиркаў на маладзютку Карэйбянку, каторая, ня глядзячы на тое, што мела ўсяго гадкоў пятнацаць, вельми частых гасьцей прыманвала да хаты; але гэты, здаецца, ня быў ёй милы.

Дзяўчынка, яшчэ саўсим падростак, была ў паркалёвай адзёжы, катора не закрывала ани ног босых, ани загарэўшай шыи; стаяла яна недалёк ад агня и, стаўшы бокам да залётника, вадзила пальцам па няроўнай паверхнасьци печы. Агонь залациў яе твар, падобную да чырвонаго яблычка, адбиваўся ў яе сивых вачох и яшчэ болей зачырвениваў чырвоную ўстужку, абвиваўшую воласы, што свабодна ляжали на плечках.

У вадблыску гэтаго агню, даглядаючы гаршчка и не мешаючыся да мушчынскай гутарки, стаяла маци сямьи—высокая, касьцистая, з лобам так сама наморшчэным, як у мужа, кабета, з такими самыми, як у яго грубыми руками, але, видаць, ня дужа и не здарова—нават можэ хворая трохи, загуканая, растрэпаная, з вустами заўсягды адчынеными. Праз многие годы працавала у хаци ды ў поли, парадзила шмат дзяцей, выгадавала их, ды многих пахавала на парахвияльных могилках. Трое тольки засталося пры жыццю: гэтая вось, што пальцам

па комини водзиць, румяная дзеўчына, ды яшчэ два сыны.

Аб сынох як раз с сваим суседам Игнацы Карэйба вёў гутарку. Вяликие згрызоты меў ён. Сьцёпка той, каторы сьцярог цяпер на поли бульбы ды гароху, скончыў ужо на сьвятога Перта двадцатку гадоў. Паждаў год—да войска! А як жэ ён без гэтаго сына на гаспадарцы астанецца? Старасць прыходзиць—цяжка будзе яму. И так доўга! Бо кали Сьцёпка быў хлопчыкам, ня мелися яшчэ яны так добра, як цяпер. Дзеля таго писаць ды чытаць вучыли самы ў хаци—и льготы ён ниякой не мае. На шэсьць гадоў пойдзець у салдаты. Можэ пасьля и вочы их не убачаць яго... Падпадзе вайна мо... а тутака гэтым часам у бацькоў правай руки нехват...

Карэйбиха адвярнулася да агню и рукавом сорочки працягнула сабе па вачох. Аканом жэ з Шумнай запытаў названаго тэсьця свайго салодзенька:

— Ну, а Янук? Гэты ўжо мусиць ў салдаты ня пойдзець, як скончыць навуки?

На чырвоную твар Карэйбы бытцам папаў сьвет сонца:

— Янук, пане дабродзею! ого! пойдзе, пэўне што пойдзе... тольки не на салдата, але на адваката... ха, ха, ха!... Здольны блазан, нехай яму Бог дасць добра, а да книжок, як жыд да библии. — „Я, татку, — кажэць, — як скончу школу, дык да унивэрсытэту паеду!“ „Едзь сынку, — гавару,— вучыся; каралём будзешь!“ А ён: „Не каралём, татку, тольки адвакатом!“ — Нехай будзець и так! Нехай хоць адзин Карэйба ў людзи выйдзе! Дзякуй Богу! станець у мяне цяпер на вучэнне сына... Сьцёпка навуки

не дастаў. Ничога не парадзиш. Иншые былi часы. Але ўжо, кали службу войсковую шчасьлива адбудзець, дык болей ад других зямли дастанець... як справедливасць кажэ... Я ниводнаго з маих дзяцей крыўдзиць не хачу и ўсих трох надзялю роўненька... роўненька... У мяне и дзеўчына так сама роднае дзицё, а як жэж! и мецьме стольки, як и браты... во што!

Ня ведама чаму, чырванеючые сярод чорных валасоў вушы аканома з Шумнай заварушылися неяк ў той самы час, як Карэйба баяў аб сваими пастанаўленни роўна падзелиць хвальварак памеж усих дзяцей. Неспакойные яго вочы заплылися якбы маслам або мёдам и звернулися да стаячай каля прыпечка дзеўчыны. И неспадзевана для ўсих, так галасна, што аж Карэйба вочы вытрашчыў, ён крыкнуў:

— Буджу паню, панна Ядвига!

Быў гэта надта добры спосаб пачаць гутарку з маладой дзеўчынай. Але яна заместа адказу сарвалася з месца ды пачала бегчы, пераляцела хату и хацела шмыгнуць ўжо у дзьверы, кали трах! нешта стукнуло, а потым два ўзрывы звонкаго сьмеху! — Стукнулися гэта дзьве маладые голавы и так моцна, што аж разляглося па хаци. Ничога! Дзеўчына, трымаючыся рукою за лоб, сьмеялася так, што аж клалася са сьмеху; з вясёлым сьмехам ўбег да хаты и шаснадццацилетни хлопец з стрэльбай за плячми — ўбег и адной рукой зняў шапку з прычэпленым школьным знакам, другой кинуў на стол дзьве забитые птушки. — За им ўляцеў и з радосным брэхам пачаў круцицца па хаци невялики сабака, ни то выжал, ни то дворны, так запэцканы, што ня

можно было пазнаць, якая шэрсць у яго. Па адзёжы хлопца можна было пазнаць, што варочаўся с палевання; боты были ў балоци, а адзежа прасякла вильгаццю мокрых лугоў. З твары яго, як у сястры круглай и дробнай, тольки яшчэ мизарнейшай, змочэнай каплями поту, так и била радасць. Сягодня першы раз на летним адпачынку бацька дазволиў яму зняць са сьцяны стрэльбу и пайсци на палеванне.

И вось забиў дзьве птушки! И для яго заварушылося ўсенька, што было ў хаци. Карэйба ў загрубелых далонях трымаў и ашчупываў прынесеных птушак.

— Алеж и тлустые, пане дабродзею, як маслам аблитые; ци бачыли гэта, што и бláзнота умее стрэляць... ха, ха, ха!

И сьмеяўся на ўсё горла, а аканом з Шумнай памагаў яму низким голасом, распытваючы Янука, дзе той паляваў, дараджваў иншые месцы, ды ахвяровываў свайго сабаку, праўдзиваго, — „слово гоноровага чалавека“, — праўдзиваго выжла.

Карэйбиха здымала у сынка стрэльбу з плеч и абцирала хвартухом пот на яго твары. Ядвинка, не саўсем яшчэ сцихнуўшы, кинулася да стаячаго на агни гаршка: маладзеньки паляўник вышаў з хаты зараз па палудни, и павинен быць галодны.

Неўзабаве на стале паявилися талерки з кислым малаком и агромная миска скварками аблитай бульбы. У хаци зрабилася весело и ясно.

Агонь на прыпечку гарэў шырокаю пламянистаю хваляю, а Карэйбиха паставила яшчэ и сьвечку на стол ў медным лихтары. З прычыны госьця дастали з шафы цынковые ложки, и тые блишчали и званили аб

галерки, чэрпаючы з их малако, абцягненае слоем сьметаны.

Карэйба з суседом папивали вишнёўку свойскай гонки. Карэйбиха з радасным на касьцистай твары усьмехом падливала и падкладала яды госьцю ды дзецям. Аканом з Шумной, абцираючы што момант рукою з залатым персцёнком малако с тырчачых вўсоў, кидаў медовые погляды на Ядвиську, каторая, кленчачы на лаве, а палавинай цела злёгшыся на стол, ела з адной талерки з братом, ды босыми пятами весело пастукивала па лави, ды згадзилася нават, хаця з хмурнай трохи заманкай, адказваць на зачэпки ня милаго кавалера.

— Панна Ядвига нешто сягодня злая.

— Я саўсем не злуюся, тольки гэта так пану Томкевичу здаецца.

— А ци панна Ядвига ведае, што злаванне шкодзиць хороству?...

— То нехай пан Томкевич ўжо николи ня гневаецца, бо збрыдзее.

— Ци ж гэта я маю разумець так, што ў вачах пани я выдаюся харошым?...

Ўсе вечэраўшые сьмеялися, и тольки Янук, не зважаючы на даўципы сястры и Томкевича, расказваў далей аб сваим палеванни. Звонки, тонки, напалавину дзицячы яго голас перабиваў ўсе другие голасы. Еў, вымахваў руками и гаварыў. Гаварыў найбольш да бацьки, каторы ядучы напихаў поўные шчоки гарачай бульбы, а вочы блишчали ад гарачыни и здаваленння.

— „Гляджу я, татку!... Трэзор стаиць... Пилнуй! — крычу. Стаиць як мур! Я гэта стрэльбу да вока... иду... Идзи далей! — кажу. Трэзор бежыць далей! Яшчэ! далей! Птушка фуурр! пух, пух!... забиў!...

Трэзор, чуючы сваё имя, круциўся каля стала радосна скавычучы; дали и яму талерку кислаго малака.

— Ха, ха, ха! — на цэлае горла сьмеяўся Карэйба. — Як гэты блазан да ўсяго патрапляець: и да книжки и стрэльбы. Тольки глядзи, смаркач, каб сам не падстрэлиўся...

Ў той час адчынилися дзьверы ад сеней и, папхнуты нечыею рукою, ўлецеў да хаты чалавек ў доўгим падзёртым адзени, ботах белых ад пылу, с пакункoм на плечах, с киём ды с шапкой ў руцэ.

Папхнули яго так моцна, ци сам ён быў так слабы, што ад парогу захадзиў як пьяны, и стаў тольки тагды, кали рукой абпёрся аб сьценку; стаяў памеж дзьверами и прыпечкам, трохи ў ценю, и, згорблены пад сваим ценжаром, голаву высунуў на залаты сьвет агню.

Гэтая худая. абцягнутая лахманами хвигура, нагибаючаяся ў низким паклони, с пакункам на плечах, киём ў руцэ, валасами растрэпаными, с касьцистаю твараю, абцягнутаю скурай, як жоўтым аплаткам — ў гэтай весело асьвечанай хаце, пасярод здаровых загарэлых твароў, тлустых людзей, громких сьмехоў ды нязгоршых дастаткоў, паказалася, нибы раптам з пад зямли зъяўляючыся дух мучэння.

— У имя Айца и Сына... — нясучы руку да лба пачала Карэйбиха.

— Ўселяки дух Пана Бога хвалиць! — з жартоўным сьмехам крыкнуў Томкевич.

— Езус, Марья! — енкнула Ядвися и схавалася за брата, каторы, палажыўшы ложку на талерку, прыглядаўся на вайшоў-

шаго, што стаяў з вачами запалыми, блишчачыми, асьлеплеными, перапалохаными.

Шырокими шагами цьвёрда падышоў да стала прысадзисты сильны хлопец ў кароткой сермяжцы и ў высоких ботах. Быў ён вельми падобны да бацьки. Так калисьци выглядаў мусиць стары Карэйба. — Синие вочы хлопца блишчали; белы лоб яго аддзеляўся ад загарэлай твары; воласы меў, як и сестра, ясна-залацистые, а руки агрубеўшые ад працы ў поли, як у бацькоў. Кивнуўшы недбала галавою аканому з Шумнай, падышоў ён да бацьки.

— Зладзея, татку, прывёў!... Гарох наш жраў, аж яму за вушами ляскацела, а можэ и ў кишэни панабираў. Нехай татка робиць з им, што хочэ! Я свае зрабиў!

Яшчэ не скончыў казаць, кали ўжо маци уцхнула яму ў руки талерку, поўную зашкварэнай бульбы; а Игнацы Карэйба аж падняўся з лавы, ды так стукнуў кулаком у стол, што аж талерки ды ложки забрашчали. На низким, густа пакрытым моршчынами лоби старога гаспадара аж набрыняли, як синие шнурки, жылы; вочы яго загарэлися, шчоки залилися кроўю. З усяго видаць было, што у гневи ён можэ быць страшны.

— А, пракляты сабака! Я табе пакажу, як маю крывавую працу марнаваць!...

Крык гэты быў ўсё роўна, што рык льва, а нарэканне Сьцёпки прыпаминала мармытанне маладого мядзьведзя. Хаця и узбагацеўшые, бацька и сын працавали и далей ўласными сваими руками: самы гарали, сеяли, касили; дзеля таго и баранили яны ўсё, што дабыли сваей крывавай працаю, як воўк бароницъ цяжкай здабычы. Раптам стары Карэйба крычаць пера-

стаў и слабыми вачами, прыкрываючы их далоняй, угледаўся ў пойманаго.

— Што гэта? спытаў.—Гэдали, ци што? Ци ты Гэдали, з Воўпы? Ну, гавары! Ци анямеў?

Запытаны паварушыў нескольки разоў губами, памаўчаў и, хилючыся низка, выбалбатаў:

— Гэдали, вельможны пане! Я... Гэдали з Воўпы... той самы, да катораго вельможны пан калисьци заежджаў па соль ды па жалеза... той самы, каторы меў тую брычку ды пару тых добрых канёў... што пан ведае... ой!...

Пазбыўся трохи страху и галавой пакиваў з палитаваннем. Карэйба мусиць добра ўжо яго прыпомниў, бо сеў изноў на лави и, хаця гнеўны яшчэ, але ўжо не так, прагаварыў:

— Добра выкераваўся... на злодзея, што ходзиць па чужых палёх и крадзе...

Жыд касьцистай рукой ўдэрыўся ў грудзи:

— Вельможны пане! я не краў... каб мяне несчасьце спаткала, кали я краў! каб я заўтрашняго дня не дачэкаў...

— А штож рабиў?—трымаючы талерку у адной руцэ, а другую шчамиўшы ў кулак, падскочыў да яго Сьцёпка.—А штож гэта рабиў, недавярку, кали цябе пры гароси злавиў? га?

— Ну, пшэпрашам! нехай вельможны панич ня гневаецца... я таго гароху не краў....

— Штож ты рабиў?—з падымаючымся изноў гневам крыкнуў Карэйба.

Томкевич, каторы на жыда пазлядаў вельми коса, зажартаваў:



Жыд касьцистай рукой ўдарыўся ў грудзі.

— Ен мусиць ўзираўся, чы ў тым гароси часам не растуць рублi...

Жыд циха выгаварыў:

— Я яго еў... гэта праўда...

Карэйба крыкнуў зноў:

— А штож ты сабе думаеш, што я гарох сею дзеля таго, каб кожны валачай абжыраўся им? Пачэкай, не дарую... мусиш заплацiць, а калi не, дык да миравога завалаку...

Жыд зноў скурчыўся низка:

— Ой!—застагнаў,—каб вельможнаму пану сто гадоў жыццяй здароўя было, калi вельможны пан Гэдалю даруе... Я да Шумнай ишоў на начлег и гэты гарох спаткаў... Ен пры дарози расьце! А чаму ён каля самай дарози расьце? Ай! многа там я яго зъеў?! крышэчку...

Томкевич, каторы, як видаць, спрытам сваим хацеў паказаць любай дзеўчыни, што ён умее, зирнуў салодзенька на Ядвиню и з грубым сьмехам запытаў:

— Так гэта вам, жыдзе,—слова гоноровага чалавека,—ваша вера многа красьци не пазваляе, алеж крышэчку то можна? што?

Жыд дзиўна неяк глянуў на гаварыўшаго и з моцна сьциснутыми губами маўчаў з миниту. Пасьля, гледжучы ў зямлю, адказаў:

— На што тут вера? Яна никому красьци не пазваляець.

И яшчэ цишэй дакончыў:

— Я быў галодны...

— Калi ты быў галодны, то трэба было папрасиць, а не браць без дазваленння... пачаў Карэйба.

Але Томкевич, перакручываючы мову сваю на жыдоўскую, перапыниў яго:

— А кали той гарох быў трэфны, то што цяпер будзе?

Жоўтые губы Гэдаля скрывилися неспакойна, мусиць Томкевич зачапиў балячку сумення яго. Ўзираючыся ў зямлю, апусьциў зморшчэны пад сивеючыми валасами лоб и глыбока задумаўся. Раптам выпраставаўся на стольки, на скольки пазволиў гнуўшы плечы яго пакунак, развёў руками так, якбы пастанавиўшы исьци на ўсё, твар падняў да гары и першы раз, як прышоў сюды, крыху мацнейшым голасом прагаварыў:

— Ай, ай! Каб навэт сам рабин каля таго гароху хадзиў, то и той зъеўбы крыху... таки гарох!

У словах яго было стольки жару, катораго жывот галодны набраўся для пекнаго гароху, што нихто з быўшых у хаци и не падумаў сьмеяцца. Напроциў, стары Карэйба и яго два сыны чутачку спахмурнели. Адзин тольки Томкевич, видаць, меў ахвоту изноў вылезьци з сваим жартам, алеж стрымаўся и ён, бо убачыў, што каханая яго зсунулася з лаўки и, стаўшы каля комина, цикава и з павагаю ўзиралася на жыда сваими вялиКими вачыма.

— Вось як!—адазваўся сам гаспадар.— Значыць, ты так збяднеў, Гэдальку! Я то ўжо, мусиць, гадоў з дзесяць, як ня видзеў цябе; але кались бываў часта ў Волпе и помню, што табе жылося добра...

— Збяднеў, паночку, збяднеў...

Томкевич стрымацца ўжо ня мог:

— А каб так сьляпы голаго абакраў,— гукнуў,—як гэта праўда, што ён бедны! Каторы з их бедны?! Ўсе яны пьяўки, кроўю людзкаю напоеные... слова гоноровага чалавека!

Гэдали паволи звярнуў твар да гаварыўшаго, глянуў на яго ня гнеўным, а някім задуманым поглядом, кий выпусьциў и, падняўшы да грудзей руки, расхилиў свой парваны халат. Пад лахманами виднелася сарочка так падзёртая, што праз яе вялизные дзиры сьвецилася пачарнеўшае, худое цела. Каротки, ахрыплы кашэль схапиў яго пры гэтым за грудзи. Праз падзёртые рукавы халата видаць было голые плечы.

— Нехлюйства! — буркнуў Томкевич и плюнуў голасно на сярэдзину хаты.

Стаяўшая каля прыпечку Карэйбиха адвярнулася, шэпчучы: „Матка Боска!“... Карэйба сваими грубыми пальцами забарабаниў па сталу, а Янук неспадзевана для ўсих загаварыў сваим тонким дзицячым голасом:

— Чаму пан ня здыме свaей торбы з плеч? Скинь пан яе з сябе, будзь ласкаў!

Томкевич прыснуў ад сьмеху:

— Пан! Ну и пан! Ха, ха, ха, ха! Слова гоноровага чалавека, як жыў, не давялося мне яшчэ чуць, каб гэтаких лапсардакоў называли панами. Видаць, што пан Ян вельми дэликатны зрабиўся ў горадзи.

Хлапец зачырванеўся, яы вишня, и, з гордасцью шаснацацилетняго гимназисты падымаючы голаву, адцяў:

— Пан Томкевич мо шмат аб чым николи яшчэ и ня чуў; але мы то ўжо даўно ведаем, што чалавек з навукаю павинен быць дэликатным для кожнаго.

— Циха, Янук! Циха!—буркнуў на свайго любимчыка стары Карэйба. Але зараз ласкава дадаў:

— Ну, Гэдали, здыми ўжо, ци што, гэты мех и выпрастуйся, кали панич так хочэ.

Видаць было, што Гэдали вельми рады з гэтаго; ён зараз пачаў здымаць праз плечы и голаву грубые шнуры пакунку, алеж яму неяк не удавалося: руки дрыжали, ды закашляў моцна.

— Ядвися! памажы яму!—закамандаваў Янук.

Дзеўчына, стаяўшая ближэй усих да жыда, скочыла и, як бач, перакинула сваими не надта каб малыми ручками пук грубых шнуроў праз голаву яго.—Томкевич изноў не вытрываў:

— Езус, Марья!—крыкнуў, —яшчэ чаго не ставала, каб панна Ядвига ручки свае каля жыдоўских лапсардакоў запэцкала! Што залишне, таго ужо, слова гоноровага чалавека, и сьвини не ядуць!

Алеж Ядвися, паслушная тольки камандзи свайго брата-гимназисты, для иншых мела востры, кусьливы язык.

— Няхай пан Томкевич будзець спакойны, што да маих рук! Як запэцкаю, то и памыю, а вады ўжо у пана прасиць ня буду.

— А што там маеце ў гэтай торби? можэ, жабруеце? шырока адкрываючы губы, цягучым голасам запыталася мацп сямьи.

Гэдали пакруциў галавой.

— Я не жабрак.

— А што ж там ёсьць ў торби?

— Я крамник... я хаджу па дварох ды ваколицах шляхты, ну, дый па хатах мужыцких—хаджу и прадаю тавар.

— Аднак жэж — ў задумцы пачаў Карэйба,—як ты мог так збяднець? Я помню, твая жонка мела ў Волпи краму з соляй, жалезам и ўселякай драбязой, а ты меў хату ўласную дый хурманаваў. Помню, ох,

помню я тые часы, кали яшчэ ў ланцях, пане дабродзею, прыежджаў да Волпы и да вас заходзиў. У тваей жонки купляў, што было трэба. Растаропная и прыгожая жыдоўка была твая Мэрка... А брычкой тваей дык раз езьдзиў да стрэчнаго брата, аж за Слонимам. Штож гэта с табой зрабилася?

Гэдали, апёршыся аб комин, стаяў цяпер проста, пэўны ў тым, што ўжо тутака яму ничога кепскало ня зробяць. На запытанне Карэйбы ён адказаў:

— Што? Вось што... Бог дапусьциў... Хата мая ў Волпи згарэла.

— А, шкода, шкода! з жалем прагаварыў Карэйба.

— То и добра! крыкнуў Томкевич.—Еў воўк, и воўка зъели! Цыж гэта яны мала будынкоў людзких падпалили? У Крэўни гэтай вясны спалили погрэб з водкай, а ў Паўлоўцы—карчму.

Циха и злёгка парушыў Гэдали плечами и сказаў:

— Я не падпаливаў.

— А, бо ня мог, а каб мог, то и ты падпалиў бы.

— Не падпалиўбы—ўмешаўся Карэйба. —Я яго даўней добра знаў; чалавек быў спакойны. А Мэрка твая як маецца? Ци и яна ўжо ў Волпи крамы не трымаець?

— Памерла.

— Глядзице! памерла! шырока зноў адкрыла губы Карэйбиха;—а-а-а! яшчэ не старая была баба! А с чаго ж яна памерла?

Жыд спусьциў вочы.

— Бог дапусьциў... ня тут спаминаючы, с кепскай хваробы...

— Значыць, с халеры—сказаў Карэйба.

А аконам, быстра варушачы стырчачыми вусами, жыва звярнуўся да жыда:

— Ну, жыдзе!—загутарыў,—як заўтра будзеш исьци цераз Шумную, то, слова гоноровага чалавека, дам табе гарнец сьвежага гароху, тольки скажы, як завецца тая хвароба, с каторай памерла твая жонка! Ха, ха, ха, ха!

Гэдали неспакойна перакрывиў рот.

— Ну, ня тут спаминаючы, гэта кепская хвароба...

— Але ты мне гавары, як яна завецца.

— Як яна завецца? А на што гэта гаварыць, як яна завецца!

— Ни за што, падла, не скажэ! Каб яго парэзаць на кавалки, — и то не! зэгудзеў сьмехам Томкевич.

— Таки ўжо у их дурны забабон,—паўтарыў Сцёпка.

Янук, зачырванеўшыся зноў, як бы каго вучачы, выгаварыў:

— Гэта не па людзку прымушаць каголечы да таго, што яму прыкрасць робиць. Видаць, што пачынаў браць справу жыда да сэрца; пры гэтым хацеў даведацца, што сталося з коньми, каторых калисьци гэты жыд меў.

— А кони?—спытаў.

— Адзин здох, а други асьлеп, и мусиў прадаць яго за 15 рублёў.

— Але ты дзяцей таки многа меў, пачаў Карэйба;—помню, як быў у вас, то пяцеро круцилося каля тваей Мэры.

— Семеро,—паправиў Гэдали.

— А Езус!—крыкнула Карэйбиха, — семеро выкармиць ды выгадаваць, ци то жарты?!

И, абпёршы касьцисту шчоку на загрубелай далони, жалосьлива кивала галавою. Яна добра ведала, што значыць кармиць и мець дзеци, навэт добра маючыся, а штож гаварыць, кали гэта здарыцца ў беднасьци. И ў голаси яе чуваць было спагаданне бацькоўским болесьцям и трудам, кали яна, гледзячы миласерна на жыда, спытала:

— А ў яким веку?

Паволи, трохи з горким, трохи з радосным усьмехам расказаў, што адно тольки з яго дзяцей было сусим дарослае: гэта дачка, каторая пасьля смерци матки даглядала и гадавала меншых. З тых меншых адзин сын вучыўся на шэўца, други хадзиў на навуку да тальмуд-торы — такой, значыць, школки жыдоўскай для бедных дзяцей; — трэци сын ничога не вучыўся, бо яму Бог розуму не даў, а чацьвёрты, Хаимка, быў вельми разумны, тольки яшчэ сусим маленьки. Дзьве малодшые дачки надта хацели пайсьци на службу якую, алеж нима як, бо и не навучылися ничога, и силы у их нехват.

— Дзеля таго сядзяць сабе ў хаци и панчохи на продаж робяць. Адна, Малка, мае 15 гадоў, и вельми пекная, але такая белая, як папер, и николи ничога не гаворыць.—Чаму яна ўсё маўчыць? Чы ён ведае! Можэ з нуды, ци з бяды, бо ёй трэба былоб болей есьци ды павесялицца; а гэтаго нимашака! Ўсе восем жывуць у адной кануры и маюць на тыдзень тры рубли, каторые ён мусиць зарабиць.—Пасьля пажару цэлаго багацтва у яго асталося 80 рублёў; за гэтые грошы ён накупиў тавароў и цяпер што тыдзень варочаецца да дзяцей на шабас и прыносиць им тры рубли... ну, кали

Бог дасьць, часам болей, рублёў чатыры, або пяць, гэта рэдка кали бывае... найчасьцей па тры, и тагды бяда; каб нязгорш пражыць, трэба былоб им восем рублёў на тыдзень. Ах! ах! каб ён меў восем рублёў на тыдзень, якоеж гэта былоб шчасьцце для яго самога и для яго дзяцей!

Гаварыў бы даўжэй, але пачаў кашляць. Перайшоўшы паволи на пальчыках часьць хаты, плюнуў ў кут и вярнуўся на сваё месцо. Ўсе маўчали. Здавалося, што дух литосьци праляцеў праз гэтую хату и мягким сваим крылом правёў па ўсих гэтых грубых тварах.

Карэйба барабаниў пальцами па стале и думаў... Аб чым? Можэ аб сваёй беднай моладасьци, кали ў лапцях заходзиў да хаты Гэдаля и весяло гаманиў з яго жонкай, Мэрай. Карэйбиха, падпёршысь далонями, думала, можэ, аб адной з памёршых сваих дочах, каторая за год перад сьмерцью, дык, як цяпер дачка Гэдаля, зрабилася белай, нибы папер, и маўчаливай, нибы здушэная птушка. Сцёпка сядзеў каля акна, бораду падпёр рукою, и, моршчачы свой белы лоб, думаў. Меў и ён добрую загвоздку: за год идзи с хаты, да войска! Дзеля таго, прыслухваючысь да гора чужога, замаркатнеў и ён. Ядвися, каторая яшчэ аб горы ничога ня ведала, прысела на зямли ды, адкинуўшы назад свае залатые воласы, з паднятаю тварай уставилась ў жыда сваими зьдзиўлеными сивыми вачами. Адзин Томкевич, видаць, кислы чагось, ня выцерпеў изноў:

— А лиха ж табе, жыдзе, казала стольки дзяцей напладзиць!

Гэдали адказаў:

— Ведама... у самых бедных заўсяды дзяцей найболей.

Але тут задзынкацеў изноў дзицячы сьмелы голас Янука:

— Няхай пан сядзець, пане Гэдалю, прашу пана сесьци.

Гэдали пакланиўся, а Карэйба пачаў ў задумцы:

— Але, от, якие на сьвеци бываюць здарэння! Чалавек спакойны, шчыра працуючы, прапаў, а гэты шэльма, Мэндэль з Шумнай, круцель, што няхай Бог барониць, а глянь—багацеець, аж страх бярэ! Чуў, ўжо Шумную здымае у арэнду.

Пры гэтым вочы яго блиснули трохи злосьцяй и пакасилися на аканома. Хадзили пагалоски, што Томкевич у змови з багатым Мэндлем без литосьци абираў гаспадара Шумнай. Няўсмак было гэта аканому, Карэйба жэ паўтарыў зноў:

— Га? чаму гэта так? Гэты ничога злога не зрабиў — дый ў бядзе, а той гицэль багачом... Вось як на сьвеци—лепшаму горш, горшаму лепш.

Гэдали зрабиў некольки шагоў ў пярод и пачаў нясьмела:

— Выбачайце, вельможные паны, у нас на гэтае ёсьць прыказка.

Ядвися заварушылася; надта ўжо любила яна казки ды прыказки. Жыд выпраставаўся и пачаў баяць:

— У нас так стаиць написана: кали Бог хацеў даць гэтаму сьвету библию, то сказаў, каб зышлися да яго ўсе горы. Горы, ведама, паслухали Бога; вяликие пастали на перадзи, давольные з таго, што яны вяликие, и ждали, каторай з их Бог дасьць би-

блию. Бог паўзираўся, паўзираўся ды кликнуў да сабе найменшую гару, такую малую, што яна была саўсим схаваўшыся за вяликими и думала сабе, што яе Бог нават и не убачыць. Але Бог таки кликнуўяе и сказаў: „Даю табе библию, бо ты хаця и не вялика, але ў вачох маих болей варта ад тых вяликих. А чаму ты болей варта? Дзеля таго, што яны гардзяцца, а ты не, и яшчэ таму, што з их шмат каменнёў паспадала на людзей, а з цябе ниводнаго.“ И даў Бог



Ядвися.

библию найменшай гарэ. Дык адзин наш вялики рабин, зваўся ён Бэн-Егуда, вытлумачыў, што прыказка гэта паказваець, як маленьки чалавечак можэць болей вартаваци ад вяликаго, кали ён без гардасьци, ды никому злога ня робиць, а той дык гардливы и шмат чаго нядобраго людзям нарабиў.

Стукнуўшы далоняю па стале, стары Карэйба блиснуў вачами и крыкнуў:

— Праўда! Вось, прымерам, пане Томкевич, кали мяне пан Палицки душыў судами, хочучы несправедлива адабраць ад мяне зямельку, згрызся я тагды, што мала не захварэў. А ўсё ж часта думаў сабе: хаця ён и вялики пан, а я тольки шляхциц лапцёвы, ўсеж таки лепшы ад яго, бо ён крыўдзицель ды гардливы, а я никому яш-

чэ вады не замуциў... морам крыви ды свайго поту дабиўся таго, што маю; и не раз прыходзилося, пане, и памагчы каму...

— Прашу выбачыць пана,—адазваўся Гэдали,—тое, што пан цяпер сказаў—ёсьць такие ягады, што растуць на калючым кусьце.. тольки я ня ведаю, як той куст завецца, што так колець...

Як бы пытаючы, павёў вокам па ўсех тварах.

— Можэ шыпшына? падсказала Ядвися.

— Ага, паненка добра ведае... шыпшына! шыпшына! У нас и аб гэтым ёсьць ладная прыказка.

Дзеўчынка пляснула далонями. Гэдали прыгасшым сваим поглядам паўзираўся на яе и, усьмехаючыся, пачаў:

— Ай! якая паненка вясёлая! вельми добра бачыць, кали хто таки вясёлы. Ох! каб гэта мая Малка была такая вясёлая! Яна равесница паненцы; росту такога, тольки белая, як папер, ды николи ничога не гаворыць. Кали паненка хочэ, то я и гэтую прыказку раскажу. У нас так стаиць написана: Кали жыдки были ў няволи бабилёнскай, жыў адзин вельми вучоны и набожны чалавек, а зваўся Урыэль. И быў ён надта добры, и дзеля таго, што быў таки добры, ён нияким парадкам ня мог быць ў няволи. Кали бачыў, што жыдоў надта ўжо крыўдзили, то так плакаў, што, здавалася, з вялликими болями цэлае сэрцэ выливалося праз вочы. И ишоў ён да тых, што цярпели ад несправедливасьци чужой, и памагаў, чым мог. Аднаму даваў крыху свайго розуму, другому—крыху грошэй, а трэцяго гладзиў па твары, бытцам маци дзицё свае, кали яно хворае. Але лягчэй ад гэтаго не было

яму, и такая горэч ды боль сьциснули яго сэрцэ, што пачаў крычаць, каб Бог даў яму сьмерць. Ну, Бог сьмерци ня даў—а тольки паслаў яму сон. Прысьнилася яму, што ён з гэтым народом ў няволи бабилёнскай, што адзин з народу прышоў да яго ды кажэць: Рэбэ Урыэль, дарадзь мне, як пастуиць ў гэтай справи. И хацеў ён ўжо парадзиць— и ня мог, бо язык ў губе калом стаў. А други прышоў и кажэць: Рэбэ Урыэль, навучы ты майго сына чытаць ў сьвятых книгах. Хацеў ён вучыць, и ня мог—сам чытаць забыўся. Прышоў и трэци чалавек ды просицца: Рэбэ Урыэль, дай мне што-небудзь есьци. Хацеў ён даць, ды ня мог: цэлы яго маёнтак негдзе прапаў. Рэбэ Урыэль крыкнуў страшэнна и разбудзиўся; пачуў, што ў галаве маець той самы розум, што меў перш, и што ўсё дабро ёсць кале яго. Тагды упаў ён на твар перад Богам ды малиўся: „Ня шли мне яшчэ, Божэчка, сьмерци, бо, хаця я надта нешчасны, але ўсёж шчасьлиўшы ад иншых таму, што магу пацешыць тых, хто смутны“... — А адзин наш вялики рабин, зваўся ён Бэн-Акиба, гаманиў, што прыказка гэта вучыць, каб, кали хто нешчасны и смуцицца з гэтаго, каб аглядзеўся каля сябе, а убачыць, што на тым кусьци шыпшыны, памиж катораго ён сядзиць, растуць и салодкие ягады.

— Глядзеце!—сказаў Карэйба.—Яки ты, Гдаль, разумны! Стольки прыказкоў умееш на памяць!.. И нязгоршые нават гэтые твае казки! далибог, нязгоршые, хаця и жыдоўские. Садзисяж, пагаворым цяпер аб тым гароси!...

Пацешэны зробленай яму ласкай, алеж и настрашэны успаминаннем аб гароси, Гэ-

дали усьмехаўся, вадзиў неспакойна вачыма и, кланяючыся, балбатаў, што ничога... не шкодзиць... ён пастаиць... Алеж Ядвися сарвалася з зямли, схапила зыдэль, ды, стаўлючы яго каля жыда, з усьмешкам на сваих румяных вустах сказала.

— Седайце, прашу! Пэўне ўжо и ноги ад стаяння забалели! Што там, седайце лепей!

Словы „што там“ были сказаны да руху, каторы зрабиў жыд, каб пацалаваць ручку, падаючую яму зыдэль.

— А седай жэ, хвароба!—крыкнуў прыказываючы Карэйба.

Жыд садрыгнуўся ад страху и, як бач, сеў. Знайшоўся цяпер близка агню, и видаць было ўсим, як дрыжали яго руки и ноги, грудзи падымалися ў частым оддыху, а вочы так запали, што з пасярод жоўтай, дэликатнай скуры лобу ды шчок мигацели, як дзьве чорные, гарачые искры.

— Алеж и дрэнна выглядаеш! лепшых ад цябе ў труну кладуць,—пачаў Карэйба.— Мусиць ты хворы, ци што?

— Хворы, вельможны пане, хворы!...

И расказаў, як пасьля пажару и жончынай сьмерци пачаў кашляць ды слабець; але за два апошние годы яму ўсё робицца горэй ды горэй; вельми цисьнець яго нешта ў грудзёх, и таки ўжо ён безсильны, страх яки! Каб ён ня быў хворы, мог бы хадзиць хутчэй ды зарабляць барждзэй,—можэ, нават лепшы яки интэрэс прыдумаў бы сабе... Але гэта такая хвароба, што вельми силы адбираець...

Малые, шустрые вочы Карэйбы завильгатнели пад густыми брывями. Цяпер добра ён прыпомниў тую шчасьливую для

Гэдаля пару, краму яго жонки и паездку ў яго будзе аж да Слонима, прыпомниў, — и ўзяў яго жаль. Сам быўшы кались бедным, Карэйба добра знаў ўсе няўзгоды беднаты дый меў яшчэ да гэтаго мягкую душу ў сваим цьвёрдым целе.

— Сухоты, ци што? — прагаварыў ў поўголаса. — Чамўж ты, лиха, ня лечшыся?

— Я быў у доктара.

— А што ж табе сказаў доктар?

— Што? Ен сказаў каб я што дзень еў мясо, пиў шмат малака, мала хадзиў дый што тыдзень ставиў банки.

И горки сьмех праляцеў па яго твары, и лоб зморшчыўся да самых сивых валасоў.

— Есьци мясо и малако пиць я не магу, бо гэта дорага... Хадзиць жэ мушу многа, бо ў гэтым мой цэлы заработак... Ну, у адным я паслухаў доктара... банки стаўлю кожны тыдзень... Яны тольки залатоўку каштуюць, ну... залатоўку на тыдзень я магу адлачыць на лечэнне...

— Ах, Езус! — зьдзивилася Карэйбиха, — як жэж вы можэце хадзиць стольки, хварэючы?...

Жыд перастаў сьмеяцца и сказаў:

— Ходжу!

Тым часам Ядвися, каторая выбегла на некольки минут ў сени, вярнулася з невяликим белым збанком и падышла да жыда.

— Можэ, малака хочэце? — спыталася, падаючы яму збанок.

Нават па вачох видно было, што Гэдали галодны. Але, паглядзеўшы на збанок, налиты недаўна надоеным, яшчэ цёплым малаком, ён адказаў, круцячы галавою:

— Дзякуй паненцы; мне гэтаго ня можна.

И расказаў, як пасьля пажару и жончынай сьмерци пачаў кашляць ды слабець; але за два апошние годы яму ўсё робицца горэй ды горэй; вельми цисьнець яго нешта ў грудзёх, и таки ўжо ён безсильны, страх яки! Каб ён ня быў хворы, мог бы хадзиць хутчэй ды зарабляць барджджэй,—можэ, нават лепшы яки интэрэс прыдумаў бы сабе... Але гэта такая хвароба, што вельми силы адбираець...

Малые, шустрые вочы Карэйбы завильгатнели пад густыми брывями. Цяпер добра ён прыпомниў тую шчасьливую для Гэдаля пару, краму яго жонки и паездку ў яго будзе аж да Слонима, прыпомниў, — и ўзяў яго жаль. Сам быўшы кались бедным, Карэйба добра знаў ўсе няўзгоды беднаты дый меў яшчэ да гэтаго мягкую душу ў сваим цьвёрдым целе.

— Сухоты, ци што? — прагаварыў ў поўголаса. — Чамуж ты, лиха, ня лечышся?

— Я быў у доктара.

— А што ж табе сказаў доктар?

— Што? Ен сказаў, каб я што дзень еў мясо, пиў шмат малака, мала хадзиў дый што тыдзень ставиў банки.

И горки сьмех праляцеў па яго твары, и лоб зморшчыўся да самых сивых валасоў.

— Есьци мясо и малако пиць я не магу, бо гэта дарага... Хадзиць жэ мушу многа, бо ў гэтым мой цэлы заработак... Ну, у адным я паслухаў доктара... банки стаўлю кожны тыдзень... Яны тольки залатоўку каштуюць, ну ... залатоўку на тыдзень я магу адличыць на лечэнне...

— Ах, Езус! — зьдзивилася Карэйби-

ка, — як жэж вы можэце хадзиць стольки, хвараючы?...

Жыд перастаў сьмеяцца и сказаў:

— Хаджу!

Тым часам Ядвися, катарая выбегла на некольки минут ў сени, вярнулася з невяликим белым збанком и падышла да жыда.

— Можэ, малака хочэце? — спыталася, падаючы яму збанок.

Нават па вачох видно было, што Гэдали галодны. Але, паглядзеўшы на збанок, налиты недаўна надоеным, яшчэ цёплым малаком, ён адказаў, круцячы галавою:

— Дзякуй паненцы; мне гэтаго ня можна.

— Што? трэфна?—засьмеяўся Томкевич.

— Мне гэтаго ня можна...

— То можэ хлеба з маслам? — адазваўся Янук.

Гэдали ничога ўжо не сказаў, тольки зноў пакруциў галавой.

— Вот, зьели бы бульбы з соляю, а то аслабнеце саўсем, — запрасила Карэйбиха, пазираючы ў гаршчок, дзе было яшчэ крыху бульбы.

Ў клопоци ад ўсяго гэтаго Гедали, пазираючы ў сторану, сказаў:

— Дзякуй вельможным паном за ўсё. Ўжо я заўтра падъем у шынкара ў Шумнай.

— Ну, и жыви ж з гэтыми людзьми!— грубым басам загаласиў аканом, — кали яны нават з хрысьцианскай руки кавалка хлеба ня возьмуць, бытцам ўсё нашае для их зараза. Але, слова гонороваго чалавека! сабачая их вера! няхай их чэрци возьмуць

з их „трэфами“ ды галоднымі бахурамі разам!

— Праўды! — пацьвярдзіў Карэйба. — Прымерам, гэты: есьці ня маець чаго, лечыцца не за што, а калі добры чалавек захочэць крыху яго пакармiць, то яму неякие забабоны скарыстаць з гэтаго не пазволяць. Праз гэта чалавек, хаця і добрае мае сэрцэ, халаднееець да их...

Гэдали слухаў, схиліў пакорна голаву и цяжка ўздыхнуў. А як падняў ён голаву изноў то на ёй видна была глубокая думка. Растаропносць сьвяцилася на яго твары. И крыху ахрыплым цихим голасам ён пачаў:

— Гэта праўда, што вельможные паны гаворaць: Есць на свеце стольки нешчасьця, скольки пяску ў вяликим моры. Адно нешчасьце ёсць з бяды, другое — з хваробы, трэцяе — ад сварки, а чацьвёртае з таго, што чалавек ня мае розуму. Але так заўсягды ня будзе на сьвеци. Прыйдзець таки час, кали ўсенька будзе добра. А ад каго гэты час прыдзе?

Сеў проста, далони палажыў на калени и крыху падняў твар. Видаць, надышла на яго добрая минута. Можэ, прыказка, каторую меў расказаць, была нэйлепшаю, можэ цеплата агню ды людзкая дабрата сагрэли яго цела и душу.

— У нас так стаиць написана: У старым горадзи Ешурум на высоким крэсьли сядзеў ў вяликай школи вялики рабин Мойсей Бэн-Маймон, а вакол яго сядзела сто, можэ, тысяча, а можэ и дзесяць тысячоў вучнёў. Ен да их гаварыў па-арабску, пагрэцку и иначэй; бо ён быў таки рабин, што ни да воднаго народу ня меў ненависьци

и гдзе тольки знаходзиў разумнаго чалавека, то прыхиляўся да яго, як бы то быў жыд. Кали ён перастаў гаварыць, падняўся з лаўки найлепшы яго вучаник, каторы зваўся Бэн-Егуда, и сказаў: „Рэбэ, ў библии я не разумею аднае рэчы! Растлумач мне, каб я яе паняў.“—„А чаго ты не разумееш?“— спытаўся Бэн-Маймон. Бэн-Егуда сказаў: „Я не разумею, хто были тые анёлы, што прысьнилися нашаму прэдку Якубу, ўзыходзячы па драбинах да неба и изноў зварочваючыся на зямлю?“ Бэн-Маймон падумаў и пачаў гаварыць: „Гэтые анёлы, то вяликие людзи, што становяцца добрыми ды мудрыми, значыць идуць што раз вышэй, ў гору. Им трудна исьци да гары, але яны идуць, бо маюць такие силы и такие вяликие жадання, каб зайсьци туды, скуль можна набрацъ шмат дабраты. Няхай яны завуцца пракоками, няхай вучоными, ци миласэрнаго сэрца, ци проста вяликими, але ўсе яны ёсць анёлы, што ўзыходзяць да неба.“ — Так сказаў Бэн-Маймон. Але Бэн-Егуда не заспакоиўся ящчэ и пытаўся далей: — „А чаму гэта, рэбэ, яны идуць раз ў гару, други раз зыходзяць ў низ? Кали яны так жадаюць быць ў неби, чамуж яны там не застаюцца, але зноў назад зыходзяць на зямлю?“ Бэн-Маймон ўстрасянуў сваими белыми валасами, як лев, и адказаў: — „Каб яны заставались ў неби и не варочались на зямлю, дык тагды не былиб яны анёлами. У гары набираюць яны многа дабраты и розуму и зварочваюцца на дол, каб разсеваци тые багацтва па зямли. И гдзе яны засеюць зямлю, там родзицца лепшае збожэ, нима сварак, але шырыцца спакой, и людзи менш плачуць, болей цешацца. Вось дзеля

чаго яны зварочваюцца на зямлю, хаця им гэта трудна прыходзицца, и дзеля таго, Бэн-Егуда, яны анёлы.“ — Бэн-Маймон перастаў гаварыць, а Бэн-Егуда и ўсе, што были там, цешылися и дзякавали яму за тое, што даў им такое пекнае абецанне. Бэн-Маймон спытаўся: — „Якое ж я даў вам абецанне?“ — А Бэн-Егуда адказаў: „Гэтые анёлы, рэбэ, зробяць некали, што на сьвеци ня будзець ўжо голаду, ни сваркі, ни дурных, ни таких, што плачуць, што ў сэрцы сваим крычаць, што им вельми кепска!“



Янук.

Але, мусиць, ня тольки Бэн-Егуда з Ешурум, а и далёки патомак яго, Гэдали з Волпы, вельми цешыўся абецаннем Раби - Маймона. Вяликая перамена зрабилася ў им. Ноги ў пакрыўленых и запыленых ботах моцна абпёр на падлодзы, падняў плечы, з каторых звешвались падзёртые рукавы. Твар падняў да столи, и яго сивая барада аттапырылася, бытцам серабрыстае скрыдло. Блыск агню падаў яму на лоб, асьвечваючы на им моршчыны, але з блишчастых вачэй так и било вяликае задаваленне.

Разам адкрытую тонкую шыю Гэдаля абвила сильная маладая рука, а румяные губы, схилиўшыся над збарожджэным мор-

шчынами лобам, выциснули на им моцны пацалунак. Зрабиў гэта Янук, каторы, ўстаўшы ад стала и падходзячы паволи да комину, з вяликим уважэннем прыслухваўся да апаведаннёў жыда и цяпер, астанавиўшысь перад им, раптам кинуўся да яго, абняў яго шыю и пацалаваў ў лоб. Патым адышоў и, абпёршысь плечми на рог комина, стаяў з пахиленай галавою, чырвоны, як бы засаромаўшысь. Нешта ў хлапцу загаварыла: ци вяликае злитаванне над бедным чалавекам, што с такой верай гаварыў аб збаўцах сьвету? ци шчырае каханне людзей-анёлоў? ци неякая надзея, што, можэ, сам кали-небудзь будзе таким анёлам?...

Цераз дзьверы да сяней паказалася галава кабеты ў чырвонай хустцы на рудых валасох и шапнула штосьци Ядвиси, каторая, убачыўшы яе, весяло падскочыла да дзьвярэй.

— Татка! дзеўчата и хлопцы хочуць пабачыць тавары крамника! Ци можна?

— Можэб и можна было; але ты, мусиць, вельми ня хочэш гэтаго?—зажартаваў стары Карэйба.

Ядвися апусьцила руки и, як бы просячы, ўзиралася на бацьку. Вельми ўжож ёй хацелася паглядзець тавароў крамника.

— Ци мушчынские камзэльки ёсць? — спытаў Сцёпка, ўстаючы ад акна.

— Раскрывай, жыдзе, свой пакунак, кали панна Ядвига так хочэ!—гукнуў Томкевич.

О! аб гэтым ня трэба было яго и прасиць. Скоры, бытцам яму с палову гадоў ды гора паменшало, пружысты, бытцам николи не хварэў, сарваўся з зэдля и, прысеўшы на зямли, стаў разблутваць вяроўки

пакунка; руки яго з радасьци дрыжали. Якое шчасьце! Прывяли яго сюды, нибы злодзея, думаў, што выштурхаюць, злаюць, можэ, нават на суд пададуць, аж тутака ня тольки што, пакрычаўшы крыху, пазволили пасядзець и пагаварыць, але яшчэ кажуць и тавары паказаць... Можэ удасцца прадаць и зарабиць... Сягоння серада; пасьля заўтра трэба зварочвацца да дзяцей... а тут яшчэ да трох тыднёвых бракуе рубля. Зарабиць! зарабиць! на хлеб и банки для сябе, на хлеб, бульбу и сякие-такие лахманы для дзяцей!


Томкевич.

Мистык, *) цешачы сябе тым раем, што прыдзе на зямлю, няведамы песьняр з памяцею, поўнай старых апаведаннёў, сухотник, цягаючы па сьвеци свой голад ды лахманы,—ўсё гэта, як бачыш, ў им згинула, а на их месца зъявиўся вёсковы крамник, услужны, быстры, з неспакойными и радосными вачыма, з гутарливым за зубами языком.

— Мужчынские камзэльки? а якжэ, маю! чаму ж их ня мець? Паненцы можэ трэба стужки блакитные? а паничу шпонки да рукавоў? Маю голки, шпильки, гузики, розные хустки, надта пекные паркали, залатые персцёнки, напарстки, ници тасемки...

*) Чалавек, каторы любиць размышляць аб таемницах веры.

Нават дрыжанне ног и хрып ў грудзях як бы зникли.

— Гэй! Гэдалька!—нибы жартуючы, нибы напраўду, закрычаў Карэйба — а штож будзець з тым гарохам, што ты ў мяне зьеў? га? можэ аб гэтым пагаворым?

О! цяпер ўжо Гэдали не баяўся саўсим! Паволи, и тольки цяжка сапучы, падышоў ён да стала, ды, кланяючысь прад гаспадаром, з милым усьмехам пачаў:

— Выбачайце, вельможны пане, у нас и на гэта прыказка ёсць вось якая: цар Саламон меў вяликие багацтва, а Іозэ, пастух, быў саўсим бедны. Аднаго разу гэты Іозэ прыйшоў ў шабас да палацу цара, азирнуўся, ци хто не глядзиць, ды ўзяў са стала кавалак кугелю. Але адзин прыяцель цара убачыў гэта, як пастух ўзяў кавалак кугелю, ды прывёў яго да Саламона. А Саламон...

Тутака Карэйба, гледзячы на рухливы твар жыда, аж за боки схапиўся са сьмеху ды крыкнуў:

— Го, го!.. Гэдалька! гэтую прыказку, мусиць, ты ўжо сам складаеш, я гэта з твае мины бачу... Гэтаго у вас, мусиць, нима написанаго... Але ў тваёй галаве ёсьць гэтае: цар Саламон ня сёк Іозы за кавалак кугеля, але даў яму яшчэ муки на страву? праўды? што?

— Праўды, вельможны пане!

— Ну, то няхай я ўжо на сягнонння буду царом Саламонам; няхай маё пяройдзець... дзеля старай знаёмасьци с табою. Ничога табе за гэты гарох не зраблю, а ў восень, кали буду мець здарэнне да Волпы, то прышлю для тваих дзяцей з поўбочки бульбы.

Жыд кинуўся да руки гаспадара ды,

цалуючы яе з вяликай радасьци, балбатаў:

— Каб вельможны пан быў шчасьливы, як я пану жычу! каб пан сабе други таки хвальварак купиў! каб пан, ну, сто яшчэ таких пекных сыноў и дочак, як гэтые паничы и тая паненка выхаваў...

Карэйбиха бухнула на цэлую хату сьмехам на апошняе жычэнне жыда.

— А бадай цябе, жыдзе! а бадай цябе! Ото ж пляце! Таки хворы, а язык яшчэ як той пытэль!

Прад прыпекам было шумна ды людна. Каб лепей бачыць тавары, далажыли на прыпечку дроў. Агонь гарэў вялики, зихацячы, и горачо зрабилося у хаци, як ў пекли. Але нихто на гэта не зважаў: ўсе, што там были, прызвычаилися да ўсяго. Двое маладых парабкоў ды дзьве маладые дзеўки ўвайшли пациху з старой гаспадыняй и з раднёй гаспадара хаты злажыли адну зацекаўленую, развесялеўшуюся грамаду. Пасярэдзини, над гурбай хварбястай, блыскучай драбязы сядзеў на зямли Гэдали, ажыўлены, клапатливы, зварочваючысь на ўсе стораны, раскладаючы чырвоные паркали ды хусты, або ў двох пальцах пакручваючы мосенджные напарстки, сталёвые гузики, срэбные персьцёнки. Ядвися и Янук сядзели так сама, на зямли, капашачыся у таварах, выбираючы з шчабетаннем то адно, то другое. Карэйбиха и Сьцёпка стаяли за крамникам, разпасьцираючы и аглядываючы мушчынские камизэльки, бабские хустки; парабки ды дзеўки выхиляли з пад агню свае шырокие плечы ды чырвоные твары. Нават старая гаспадыня зьвешвала сваю скорчэную беззубую, сьмяючуюся твар над галавами Ядвиси и Янука ды шапятливым гола-

сам казала падаць два локци паркалю—на хвартух.

Трэзор и той выпоўз з кута, умешаўся меж людзей и, дзяўкаючы, хаця яго и адганяли, лез сваими ўбалочэными лапами на разложэные тавары.

*
* *

Ноч была цёмная и тольки ў гары ясьнеючая нязличэными гвездами, як Гэдали з варот хвальварку зноў выходзиў на поле. На сустрэчу яму нёсся крык палявых сьвяршчоў. Ў прыдарожнай траве ў зелени палёў сьвирчали яны таким вяликим хорам, так вострa, крыкливе ды з таким пасьпехам — сказаўбы им канешне трэба было высьпеваци сваю песьню ды каб прад паўночаю замоўкнуць. На дарози пад шырока раскинуўшымися вербами было заўсим чорна; па палёх шыроких вецер шумеў циха ды аднастайне. Ля стадолы, каторая зараз за варотами цягнулася низким ценем, стаяла высокая нерухомая тополя. Жыд падышоў да яе, скинуў з плеч пакунак и, праз неяки час шэпчучы, личыў заработак сягонняшняго вечару. Прадаў таки нямала—зарабиў поў рубля ды быў надта рады. Тольки было яму холадно дый есьць хацеў. Ничога! Заўтра нагрэецца на сонцы и падъесьць сабе у шынкара з Шумнай. Перастаў личыць и глянуў на гвезды. Пад нерухомыми тополями падняў руки ўверх и адмаўляў вячорную малитву.

— Дзякуй табе, Пане сьвету, што народ мой Ты выбраў з намижы ўсих народоў!

Тутака ўстрасянуў яго кашэль; пад сарочкаю з вяликими дзирами па яго цели, высахшым ды сьцямнелым, праляцела дрож.

— Дзякуй Табе, Пане сьвету, што стварыў мяне так, як хацеў!

Крыху потым лежаў наўзнич, маючы пад галавой пакунак, раскинуўшы руки па мокрай траве. Здалёк, з поля, чутны быў



Гэдали адмауляу вячорную малитву.

посвист Сьцёпки, каторы изноў пильнаваў бульбы ды гароху. Ў хмурнай цемнаце вярбовай прысады затупатали капыты каня, на каторым Томкевич адъежджаў да хаты, ды згинули ў далечыне. У хвальварку ўжо ўсе спали.

Далёка гдзесьци грала пастуховая дудка. Сьвяршчы перастали сьпеваць.

Гэдали ня спаў. Думаў аб нежданым заробку, каторы быў неспадзеванай зоркай на яго цёмным неби. А можэ памеж гвездным небам а бязсонными яго вачми гарачка сухотника завесила людзей-анёлоў, каторые то ўсходзили да гары, то зступали ў дол, каб сеяци салодкасьць ды сьвет на зямли, на каторай калисьци ня будзець ўжо ани гора, ани сварбы, ани таких, што плачуць и ў сэрцы сваим гаманяць, што им надта дрэнна....



## ВЫДАННЯ „НАШАЕ НИВЫ.“

**№ № 1 и 2 Зямельная справа у Новай Зэляндии.** Пэрэлажыў з украинской мовы А. Б. Ц. 3 к. (польскими и рускими литэрами).

**№ № 3 и 4 „Гэдали“** апаведанне **Э. Ожэшковой,** з рысунками **Богуш-Сестжэнцевича.** (пол. и руск. литэрами). Цэна па 6 кап.

**№ № 5 и 6 Казка аб вадзе,** Бэльлями (пол. и руск. лит.). Цэна па 3 кап.

Усе гэтые книжки можна купляць ва ўсих книгарнях; глаўны склад у канторы газэты „Наша Нива“, Вильня Завальная вулица № 30 (рог Троцкай). Тамака можна купляць книжки:

1) **Што такое Свабода.**—3 грошы. (руск. л.)
2) **Чы будзе для усих зямли.** — 5 грошэй. (рускими литэрами).
3) **Вязанка** Янки Лучыны.—4 кап. (руск. л.)
4) **Казки** выдаў А. К.—3 кап. (руск. лит.)
5) **Беларуски лемэнтар,** або першая навука чытання—6 кап. (польск. и руск. лит.)
6) **Першае чытанне** для дзетак беларусаў. Написала Цйотка.—6 кап. (пол. и рус. л.)
7) **Гуторка аб тым, куды мужыцкие грошы идуць.** Цэна 3 кап. (руск. лит.)
8) **Дудка беларуская** Мацея Бурачка (Ф. Богушэвича). Цэна 25 кап. (польск. лит.)
9) **Гуторки аб неби и зямли.** — Цэна 15 кап. (рускими лит.).

**Пачтовые Беларускис писульки** (аткрытки з рысунками). Штука 5 кап.

---